# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ |
|---|---|---|

№ 32 (567) — Нядзеля 6-га жнівеня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


## Прэзыдэнт Кэнэды да Амэрыканскага Народу

25-га ліпеня прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Джон Кэнэды выступіў у амэрыканскім радыё і тэлевізіі з прамовай у сувязі з завайстрэньнем міжнароднага напружаньня. Зьмяшчаем галоўныя вытрымкі прамовы прэзыдэнта Кэнэды:

«7 тыдняў таму я вярнуўся з Эўропы, каб даць вам справаздачу аб маёй сустрэчы з кіраўнікам савецкага ўраду Хрушчовам і іншымі палітычнымі дзеячамі. Грозныя папярэджаньні Хрушчова аб лёсе ўсяго сьвету, ягоны мэмарандум аб Бэрліне, ягоныя далейшыя выступленьні, а таксама пагрозы, якія ўжылі ён і ягоныя паплечнікі, а таксама абвешчанае ім павялічэньне савецкага ваеннага бюджэту, — усё гэта прыняло да шэрагу пастановаў нашага ўраду і да нарадаў у рамках Атлянтычнай супольнасьці.

«Што тычыцца Бэрліну, дык як вам ведама, Хрушчоў мае намер адным росчыркам пяра, папершае, зьліквідаваць наша законнае права знаходзіцца ў Заходнім Бэрліне, і, падругое, перашкодзіць нам выканаць абяцаньні, дадзеныя намі двум мільёнам жыхароў Заходняга Бэрліну. Гэтага мы дазволіць ня можам. Мы ведаем, што трэба рабіць — і маем намер гэта зрабіць. Я буду гаварыць з вамі адкрыта аб самых першых кроках, якія будуць намі зробленыя. Нашы дзеяньні вымагаюць ахвяраў ад шмат-якіх амэрыканскіх грамадзянаў. У будучыні яны будуць вымагаць яшчэ большага. Яны будуць вымагаць ад усіх нас мужнасьці й цьвёрдасьці на працягу даўгіх гадоў. Але калі нашы дзеяньні й дзеяньні нашым саюзьнікаў будуць прадыктаваныя нашай сілай і адзінствам нашых мэтаў — з халоднай рашучасьцяй і моцнымі нэрвамі, із стрыманасьцяй у словах і ў нашых абаронных сяродках — я поўны надзеі, што нам удасца захаваць мір і свабоду.

«Беспасярэдняя небясьпека пагражае Заходняму Бэрліну. Але гэты ізаляваны свабодны фарпост — не ізаляваная праблема. Пагроза мае сусьветны характар. Таму і нашы высілкі павінны мець таксама шырокі характар і не канцэнтравацца на ізаляваным, штучна выкліканым крызісе. Нам кінуты выклік у Бэрліне — але нам кінуты выклік і ў Паўдзённа-ўсходняй Азіі, дзе граніцы горш ахоўваныя, дзе ворага цяжэй пазнаць і дзе небясьпека камунізму ня так выразная для мясцовага насельніцтва. Нам кінуты выклік на нашай ўласнай паўкулі і ўсюды, дзе людзкой свабодзе пагражае небясьпека.

«Я хачу прыгадаць вам, што з прычыны ваенных і дыпляматычных выпадковасьцяў, свабоднае насельніцтва Заходняга Бэрліну засталося 160 кілямэтраў на той бок зялезнай заслоны. Яно апынулася там у выніку нашай перамогі над нацыстаўскай Нямеччынай. І нашым неад'емным правам, якое выплывае з гэтай перамогі, зьяўляецца наша прысутнасьць у Бэрліне і карыстаньне свабодным доступам туды праз усходнянямецкую тэрыторыю. Гэтыя правы ня раз прадаўжаліся і прызнаваліся адмысловымі пагадненьнямі з Савецкім Саюзам. Бэрлін — гэта ня частка Ўсходняй Нямеччыны, але асобная тэрыторыя пад кантролем саюзных дзяржаваў. Нашы правы там ясныя і цьвёрдыя ўкарэненыя. Але ў дадатак да гэтых правоў існуе яшчэ наш абавязак захаваць — а калі трэба, дык і абараніць — магчымасьць для двух мільёнаў чалавек самым вызначаць свой лёс і выбіраць адпаведны для іх спосаб жыцьця.

«Такім чынам наша прысутнасьць у Заходнім Бэрліне і наш доступ туды ня могуць быць зьліквідаваныя ніякімі дзеяньнямі савецкага ўраду. Заходні Бэрлін даўно ўжо знаходзіцца пад аховай НАТО, і мы далі слова, што ўсякі напад на гэты горад будзе разглядацца намі, як напад і на ўсіх нас.

«Заходні Бэрлін, які знаходзіцца 160 кілямэтраў у глыбіні Ўсходняй Нямеччыны, блізка ад савецкіх лініяў забесьпячэньня і акружаных савецкім войскам — адыгрывае толькі адну ролю. Ен — ня толькі вітрына вольнага сьвету, сымбаль і абток свабоды ў камуністычным сьвеце. Ен больш, чымся толькі лучыва вольнага сьвету, маяк, што кідае промень надзеі за зялезную заслону і люк для ўцекачоў адтуль.

«Заходні Бэрлін — гэта ўсё гэта. Але перш за ўсё ён цяпер стаўся, — як яшчэ ніколі — месцам выпрабаваньня мужнасьці й сілы волі Захаду; пунктам, дзе нашы ўрачыстыя забавязаньні крыжуюцца цяпер з савецкімі прэтэнзіямі. Было-б вялікай памылкай з боку нашых апанэнтаў разглядаць Бэрлін як лёгкую мішэнь з прычыны ягонага геаграфічнага палажэньня. У Бэрліне прысутная Амэрыка, прысутныя Англія й Францыя; прысутная, у сілу сваіх забавязаньняў НАТО. Прысутнае і насельніцтва Бэрліну. Бясьпека Бэрліну — наша бясьпека: мы ня можам аддзяляць адну ад аднэй.

«Мне даводзілася чуць, што Бэрлін быццам-бы немагчыма абараніць. Але тое-ж гаварылі і аб Бастоні. Гэта гаварылася аб Сталінградзе. Кожны раён можна абараніць, калі знойдуцца адважныя людзі.

«Ваяваць мы ня хочам, але нам даводзілася ваяваць раней. Былі і раней людзі, якія зрабілі небясьпечную памылку, уважаючы людзей на Захадзе занадта эгаістычнымі, занадта мяккімі і занадта разьеднанымі, каб супрацівіцца замаху на свабоду іншых краінаў. Тыя, хто пагражае нам вайной у сувязі з канфліктам аб Бэрліне, павінны былі-б прыгадаць словы старажытнага філёзафа: «Чалавек, які выклікае страх у іншых, павінен сам баяцца». Мы ня можам дазволіць і мы не дазволім камуністым выціснуць нас з Бэрліну — ні паступова ні сілай. Выкананьне нашых забавязаньняў у дачыненьні да гэтага гораду істотнае дзеля падтрыманьня духу і бясьпекі Заходняй Нямеччыны; для адзінства Заходняй Эўропы і для даверу да нас усяго вольнага сьвету. Стратэгія савецкага ўраду даўно ўжо цаляе ня толькі ў Бэрлін, але і на падзел і нэўтралізацыю ўсёй Эўропы; на тое, каб выціснуць нас назад да нашых берагоў. Мы павінны выканаць наша неаднаразова абвешчанае забавязаньне ў дачыненьні да насельніцтва Заходняга Бэрліну й абараніць нашы правы і ягоную недатыкальнасьць — нават перад абліччам сілы — каб захаваць давер іншых народаў сьвету да дадзенага намі слова і нашай рашучасьці. Сіла саюзу, на якой базуецца наша ўласная бясьпека, у сваю чаргу залежыць ад нашай гатовасьці стрымаць нашае слова».

Далей прэзыдэнт Кэнэды гаварыў:

«Пакуль камуністыя будуць цьвердзіць, што яны зьбіраюцца аднабакова зьліквідаваць нашыя правы ў Заходнім Бэрліне і нашы забавязаньні ў дачыненьні да ягонага насельніцтва — мы павінны быць гатовымі бараніць гэтыя правы і гэтыя забавязаньні. Мы ніколі не адмовімся ад перамоваў — калі перамовы могуць дапамагчы .Але мы павінны быць гатовымі супрацьставіць сіле сілу. Адны толькі перамовы — і **адно толькі ўжыцьцё сілы — засуджаныя на няўдачу. Супольна яны могуць служыць справе міру і свабоды.»**

Пералічыўшы затым абаронныя і эканамічныя мерапрыемствы, выкліканыя завайстрэньнем міжнароднага палажэньня, прэзыдэнт Кэнэды працягваў:

«У свой час мы падпісалі статут Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, і мы заўсёды гатовы абмяркоўваць міжнародныя праблемы з усімі краінамі, якія гатовыя гаварыць з намі — і слухаць нас — у духу розуму. Калі ў іх ёсьць прапановы — не дамаганьні! — мы выслухаем іх. Калі яны імкнуцца да сапраўднага ўзаемаразуменьня — а не да ўсту-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## Мір, але без капітуляцыі

Амэрыканскія мерапрыемствы ў вабароне Бэрліна, абмяркоўваныя й задэкляроўваныя ўжо ад даўжэйшага часу, знашлі сваё поўнае сфармуляваньне ў прамове прэзыдэнта Кэнэды, сказанай 25-га ліпеня сёлета цераз амэрыканскае радыё й тэлевізію. Дзеля гэтага ўспомненая прамова, скарочаны тэкст якой зьмяшчаем побач, зьяўляецца прадметам асаблівай увагі цэлага сьвету. Ад практычнага правядзеньня ў жыцьцё задэкляраваных у гэтай прамове мерапрыемстваў будзе залежыць ня толькі лёс заходняга Бэрліна й Нямеччыны ў цэласьці, але й будучыя ўзаемадачыненьні між Захадам і Ўсходам, а ня выключана, што й такое кардынальнае для цэлага сьвету пытаньне, як захаваньне міру або разьдзьмуханьне новае сьветавае вайны.

Прэзыдэнт Кэнэды ў сваей прамове ня толькі намеціў палітычныя ходы Амэрыкі дзеля абароны Бэрліна, але таксама, у выпадку, калі палітычныя мерапрыемствы акажуцца недастатковымі, паведаміў і аб мерапрыемствах ваеннага характару. Пайменна, ён зажадаў ад Кангрэсу дадатковых 3,4 мільярдаў даляраў на абарону, павялічэньня наземных збройных сілаў з 875,000 да аднаго мільёну, павялічэньня дадатковых морскіх збройных сілаў на 29,000 і паветраных — на 63,000; апрача гэтага права ад падвойнага да патройнага змабілізаваньня вайсковага кантынгенту на працягу ўжо бліжэйшых месяцаў.

Само сабой зразумела, што Кангрэс гэтыя патрабаваньні прэзыдэнта прыйме, а амэрыканскі народ, хоць і будзе змушаны несьці вялікія дадатковыя цяжары, у сьведамасьці страшнай камуністычнай загрозы, іх заапрабуе. Масква шырыць пагляд, што Захад, у тым ліку й Амэрыка, не адважыцца збройна інтэрвэньяваць у выпадку нарушэньня ягоных правоў у Бэрліне, а савецкі амбасадар у ЗША Меншыкаў навет заявіў публічна, што «ў канчальным выніку амэрыканскі народ не захоча ваяваць за Бэрлін».

На шчасьце, запраўднасьць гаворыць аб зусім адваротным. Гэта пацьвярджаюць інстытуты дасьледваньня публічнае апініі ў Амэрыцы. Аказваецца, што 71% Амэрыканцаў выказаўся за рызыкай вайны дзеля захаваньня правоў Захаду ў Бэрліне; 15% выказалася за «асьцярожную станоўчасьць і магчымае ўхіленьне ад вайны»; а ўсяго толькі 14% жадае «хутчэй уступак, чымся вайны ў вабароне Бэрліна». Такім чынам усе палітычныя й мілітарныя мерапрыемствы амэрыканскага ўраду, а ў выпадку няўхільнай канечнасьці й гатоўнасьць зарызыкаваньня вайны маюць поўнае падтрыманьне амэрыканскага народу.

Характарызуючы сяньняшняе палітычнае палажэньне, прэзыдэнт Кэнэды даў наступную яго ацэну: **«Беспасярэдняя небясьпека пагражае заходняму Бэрліну. Але гэты ізаляваны свабодны фарпост — гэта не ізаляваная праблема. Пагроза мае сусьветны характар. Таму і нашыя высілкі павінны мець таксама шырокі характар і не канцэнтравацца на ізаляваным, штучна створаным крызісе. Нам кінуты выклік у Бэрліне — але нам кінуты выклік і ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, дзе граніцы горш ахоўваныя, дзе ворага цяжэй пазнаць і дзе небясьпека камунізму ня так выразная, для мясцовага насельніцтва. Нам кінуты выклік на нашай собскай паўкулі і ўсюды, дзе людзкой свабодзе пагражае небясьпека».**

Да гэтых слоў амэрыканскага прэзыдэнта спэцыяльныя камэнтары лішнія. Прэзыдэнт Амэрыкі, будучы поўнасьцяй асьведамлены аб заіснаваўшым палажэньні й навісшай над усім вольным сьветам небясьпекай, разглядае пытаньне Бэрліна ў глябальным аспэкце. Ён дае нам зразумець, што абарона Бэрліна — гэта абарона ўсяго вольнага сьвету. І наадварот, капітуляцыя ў Бэрліне — гэта капітуляцыя перад камунізмам і ў кажным іншым пункце зямное кулі. Таму капітуляцыі ў справе Бэрліна быць ня можа й яе ня будзе.

Прэзыдэнт Кэнэды паказаў тры магчымасьці, якія можна выбраць для разьвязаньня бэрлінскага пытаньня. Яны наступныя: або міжнародны арбітраж дзеля выясьненьня правоў Амэрыкі на прабываньне ў заходнім Бэрліне; або свабоднае галасаваньне насельніцтва заходняга Бэрліну ці навет усяе Нямеччыны аб тым, якім павінен быць ягоны лёс; або весьці далейшыя перамовы з Савецкім Саюзам. Але, як з асаблівым націскам падчыркнуў Кэнэды, Савецкі Саюз, ідучы на перамовы, павінен гэтым разам згары выключыць, што Амэрыка, у страху перад эвэнтуальнай вайной, можа пайсьці на капітуляцыю. Заканчваючы сваю прамову, прэзыдэнт Кэнэды асьветчыў даслоўна: **«мы імкнёмся да міру, але мы ня зьбіраемся паддавацца».**

Такім чынам прэзыдэнт Кэнэды ў пытаньні Бэрліна паставіў кропку над «і», займаючы зусім выразную й цьвёрдую пазыцыю, павароту ад якой ужо быць ня можа. Гэтая пазыцыя амэрыканскага прэзыдэнта знайшла шырокае прызнаньне й падтрыманьне як у самой Амэрыцы, гэтак і з боку ейных саюзьнікаў. Аб гэтым дастаткова сьветчаць заявы дзяржаўных мужоў і адказных палітыкаў заходніх дзяржаваў, а таксама галасы заходняе прэсы. Улічваючы ўсё гэта, сяньня можна быць пэўным, што хаця пытаньне Бэрліна, паводля асьветчаньняў Хрушчова, мае быць аднабакова разьвязанае да канца бягучага году згодна савецкіх жаданьняў, з боку Амэрыкі яно было ў прынцыпе разьвязанае ўжо 25-га ліпеня сёлета, г. зн. у той дзень, калі прэзыдэнт Кэнэды сказаў сваю, — назавём яе гістарычнай — прамову.

Але з увагі на тое, што, як зацеміў прэзыдэнт Кэнэды, Бэрлін не зьяўляецца ізаляванай праблемай, а становіць

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## З нагоды новай праграмы КПСС

Ёсьць старая арабская казка, якая прыгадваецца калі чытаем тэкст новай праграмы партыі, а перш за ўсё разьдзел пад загалоўкам: «Заданьні партыі ў галіне ўздыму матарыяльнага дабрабыту народу». Вось, што гаворыцца ў гэтай казцы:

Калісь у Багдадзе жыў вельмі бедны чалавек, ён галадаў, начаваў пад плотам, хадзіў апрануты ў лахманы. І калі ён ня мог далей вытрымаць, ён адважыўся на распачлівы крок. Пайшоў да каліфа й сказаў, што ён абяцае навучыць асла голасна чытаць Каран. Каліф зацікавіўся гэтай справай і папытаўся, які тэрмін патрэбны дзеля зьдзейсьненьня гэтага нябывалага ў сьвеце пэдагагічнага цуду. Жабрак падумаў і сказаў: «Дванаццаць гадоў». «Добра — сказаў каліф. — Дванаццаць гадоў ты будзеш жыць пры стайні, атрымоўваць ежу й вопратку, якую атрымоўваюць конюхі. А калі пройдзе гэты тэрмін, я паклічу цябе з аслом. Калі сапраўды асёл прачытае Каран я цябе зраблю багатым. Калі-ж не, дык не наракай, — ты будзеш пакараны і то найбольш страшной карай.»

Жабрак згадзіўся на гэтыя ўмовы і пачаў сваю працу з аслом. І вось аднойчы да яго прыйшлі прыяцелі ды пытаюцца: «Ці ты звар'яцеў? Ты-ж добра ведаеш, што твае абяцаньні нявыканальныя, і што праз 12 гадоў ты будзеш пакараны.» Ён ім адказаў: «Эх, сябры, Алах усемагутны. 12 гадоў — гэта даўгі тэрмін. За гэты час усё можа здарыцца: можа памерці каліф, магу памерці я, а таксама можа здохнуць асёл». Бедны багдадзкі цудатворца вымагаў 12-ці год. Маскоўскія-ж апаратчыкі абяцаюць зьдзейсьніць свае цуды за 20 гадоў. Але ў адрозьненьне ад багдадзкага цудатворцы яны застрахоўваюцца. Пасьля пераліку ўсіх цудаў, якія будуць зьдзейсьнівацца ў канцы другога дзесяцігодзьдзя, і якія, як гаворыцца на пачатку другой часткі праграмы прывядуць «савецкае грамадзтва да зьдзейсьненьня прынцыпу распадзелу паводля патрэбаў», яны пішуць: «Ускладненьне міжнародных узаемадачыненьняў і выкліканае гэтым неабходнае павялічэньне выдаткаў на абарону можа запаволіць рэалізацыю плянаў уздыму дабрабыту народу».

Цяпер прыгадаем, што гаворыцца ў першай частцы праграмы. Там зусім пасьлядоўна, але з пункту гледжаньня перакананых камуністых, выказваецца мэтодыка змаганьня супраць гэтак званага «імпэрыялізму», а прасьцей кажучы — супраць вялікіх дзяржаваў, якія не падпарадкоўваюцца дыктатам Крамля.

Ня будзем цяпер спрачацца, хто вінаваты ў тым, што паўстаў такі канфлікт паміж камуністычным і некамуністычным сьветам. Абмяжуемся толькі аднэй заўвагай: праект праграмы КПСС удакладняе і разьвівае тэзіс, які заўсёды ляжаў ў васнове камуністычнай стратэгіі — прынцып пасьлядоўнага і бязьлітаснага змаганьня з некамуністычным лягерам.

Напрыклад, у разьдзеле «Міжнародны рэвалюцыйны рух работніцкай клясы» гаворыцца: «Работніцкая кляса і ейны авангард — марксысцка-ленінская партыя — уважаюць за лепшае рэалізаваць пераход улады з рук буржуазіі ў рукі пралетарыяту **мірнымі сродкамі,** без грамадзянскай вайны». А ў наступным абзацы гаворыцца, што «неабходна мець на ўвазе магчымасьць **нямірнага пераходу да сацыялізму».** Які будзе выбраны шлях — мірнага ці нямірнага захопу ўлады — у гэтым абзацы гаворыцца, што гэта «будзе залежаць ад сілы супраціву рэакцыйных колаў». Інакш кажучы, гэтак званым «рэакцыйным колам» даецца магчымасьць: або дабраахвотна аддаць уладу камуністым, або быць пераможанымі мілітарнай сілай. Гэта выбар паміж самагубствам і прымусовым зьнішчэньнем.

Няма нічога дзіўнага, што такая прапанова няўхільна прывядзе да росту варожасьці гэтак званых «імпэрыялістых». А калі так, дык стаецца актуальным тое абумоўленьне, якое мы цытавалі напачатку: «Ускладненьне міжнародных узаемадачыненьняў можа запаволіць рэалізацыю плянаў уздыму дабрабыту народу».

Як і багдадзкі жабрак, Хрушчоў абяцае тое, што немагчымае для зьдзейсьненьня, але адначасова сам стварае аб'ектыўныя ўмовы дзеля таго, каб зьдзейсьненьне ягоных абяцаньняў сталася немагчымым. Хто-ж зьяўляецца больш сумленьнем — багдадзкі жабрак ці першы сакратар ЦК КПСС?

**Р. С.**

*Зь гісторыі Беларусі*

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Чаму Казімір ня прыйшоў з дапамогай Ноўгараду ды не дапусьціў да вайны з Маскоўшчынай Вялікае Княства Літоўскае, якое аднак дамагалася гэтае вайны ад Казіміра? Длугаш паясьняе, што Казімір не жадаў вайны з Маскоўшчынай з узгляду на «магутнасьць» гэтага гаспадарства, з узгляду непадрыхтованасьці да гэтае вайны ВКЛ, бо яно не забясьпечылася польскай падтрымкай, а галоўнае, што гэтай вайне ня спрыялі чалі нутраныя літоўскія рэлігійныя закалоты. Праўдападобна, што гэтая заўвага Длугаша адпавядае задумам Казіміра, аднак яна не адлюстроўвае запраўднага стану. Ведама, Ліцьвіны навет ня думалі «забясьпечвацца» падтрымкай Польшчы, папершае таму, што, пасьля захаваньня свайго поўнага нэўтралітэту ў польска-прускай вайне, яны гэтай падтрымкі ад Польшчы не спадзяваліся, а падругое яны не патрабавалі польскае дапамогі. Дасюль Літва спраўлялася з маскоўскай загрозай, яна справілася-б зь ёй і цяпер, тым больш у саюзе з Ноўгарадам. Што тычыцца літоўскага нутранога рэлігійнага закалоту, дык тут Длугаш з Казімірам маюць некаторую слушнасьць, але чамусьці Ліцьвіны гэтыя «закалоты» зусім ня бралі пад увагу, а толькі імі прыкрываўся Казімір, які, як мы маглі канстатаваць вышэй, сам і сьведама спрычыніўся да іх.

Галоўныя прычыны, чаму Казімір, ведама ў саюзе з Палякамі, не падтрымаў Ноўгарад і не дапусьціў Вялікае Княства Літоўскае да вайны з Маскоўшчынай, наступныя. Справа ў тым, што пасьля заканчэньня вайны з Прусіяй Казімір накіраваў сваю польскую палітыку на апанаваньне Чэхіі і Вугоршчыны. Казімір быў жанаты з дачкой нямецкага кайзэра Альбрэхта II, які ўважаўся адначасова каралём Чэхіі й Вугоршчыны. Пасьля сьмерці Альбрэхта II, гэтым каралём Вугоршчыны й Чэхіі стаўся ягоны сын Уладыслаў Пagrабоўца. У той-жа час Чэхі мелі ўласнага караля, падтрымоўванага гусытамі, — Юрага Падзебрада. У змаганьні апошняга з прэтэндэнтам на чэскі каралеўскі пасад Уладыславам Паграбоўцам і Рымам Казімір падтрымаў Юрага Падзебрада й гэтым самым дамогся ад яго згоды, што пасьля ягонае сьмерці чэская карона пяройдзе да аднаго з сыноў Казіміра, найменна да каралевіча Уладыслава. Адначасова Казімір ня траціў надзеі здабыць і вугорскую карону для другога із сваіх сыноў, дамагаючыся яе «праўным» шляхам. Адным словам, тут выявілася агульная хвароба таго часу ў пагоні за каронамі, тым больш гэтая пагоня польскага крою, якой захварэў і Казімір. Юры Падзебрад памёр у 1471 годзе, і 15 чэрвеня гусыты запрасілі сына Казіміра Ўладыслава прыняць чэскую карону. Ён быў каранаваны ў Празе 22 жнівеня гэтага-ж 1471 году. Тымчасам на чэскую карону прэтэндаваў таксама наступнік Уладыслава Паграбоўца вугорскі кароль Мацьвей Корвін. Пры падтрымцы Рыму й нямецкага кайзэра Фрыдэрыка III, а таксама каталікоў-Чэхаў, ён у сваю чаргу быў каранаваны чэскай каронай, атрымаўшы яе з рук папскага легата. Ведама, зь ініцыятывы Казіміра ў Вугоршчыне стварылася так званая змова «16 магнатаў», якія «дэтранавалі» Мацьвея Корвіна, а на ягонае месца запрасілі другога сына караля Казіміра — Казіміра Казіміравіча. Перад гэтай падзеяй ужо ад даўжэйшага часу польскае войска пустошыла паўночную Вугоршчыну, але апошняя «змова» сталася прычынай дзеля абвешчаньня агульнай вайны Вугоршчыне, што і здарылася 19 верасьня 1471 году. Гэтая вайна зацягнулася на даўжэйшы час і толькі ў 1474 годзе быў падпісаны мір на 3 гады. Выйграў, ведама, Мацьвей Корвін, але гэтая «вугорская праблема» на даўжэйшы час адцягнула ўвагу Казіміра ад справаў Вялікага Княства Літоўскага.

Другой прычынай было жаданьне Палякаў наагул паслабіць ВКЛ і гэтым самым прымусіць Ліцьвіноў пайсьці насустрач польска-літоўскай «вуніі». Да гэтай ідэі далучыўся таксама й Казімір. Гэтая тэндэнцыя Казіміра асабліва выявілася ў ягоным намаганьні пасеяць рэлігійную варажнечу сярод Ліцьвіноў, каб гэтым самым не дапусьціць да папярэдняе наважанасьці апошніх спыніцца на адзінай новай кандыдатуры Вялікага Князя. Пакліканьне ім бэрнардынцаў і францысканцаў у ВКЛ тлумачылася палітычнымі матывамі, а найменна, як зазначалася вышэй, каб сьхіліць на свой бок Папскую курыю ды распаліць рэлігійны закалот у ВКЛ. Свае матывы «прывіцьця запраўднае веры герэтыкам і сьхізматыкам» ён паказаў на прыкладзе палітычнай маніпуляцыі з чэскімі гусытамі. Тэндэнцыя гэтая выявілася таксама ў самым факце стрыманьня Ліцьвіноў ад вайны з Маскоўшчынай і ў вадмове літоўскае дапамогі Ноўгараду. Нарэшце яна выявілася ў факце адхіленьня Алелькавічаў ад Кіеўскага княства, у факце ліквідацыі гэтага княства, наагул у факце занядбаньня літоўскіх справаў. Занятасьць чэскімі й вугорскімі справамі сама сабой не магла перашкодзіць прабегу літоўска-маскоўскай вайны, была-б толькі згода Казіміра ды ягонае ўпаўнаважаньне на гэта для Літоўскай Рады. З другога боку, бяз гэтае згоды й упаўнаважаньня не магло дайсьці да паразуменьня ў ВКЛ адносна рызыкі не згадзіцца з Казімірам і насуперак ягоным жаданьням распачаць вайну з Маскоўшчынай.

Знайшоўшыся ў такім паложаньні, Ліцьвіны ўсёткі папрабавалі дзейнічаць самастойна. Яны накіроўваюць пасольства да хана Вялікай Арды Ахмата з мэтай сьхіліць яго да паходу на Маскоўшчыну. Аднак гэтае пасольства было затрыманае ў Ардзе на даўжэйшы час і вярнулася ў Літву з ханскімі пасламі толькі восеньяй 1471 году, г. зн. пасьля маскоўскай расправы з Ноўгарадам. Відавочна было дамоўлена між Літоўскай Радай і ханам Ахматам распачаць агульны наступ на Маскоўшчыну ў наступным годзе. Запраўды, хан Ахмат напаў на Маскоўшчыну ў пачатку жніўня 1472 году. Ён здабыў і разбурыў Алексін, потым папрабаваў пераправіцца праз Аку. Тут яму быў зроблены некаторы супраціў, але хутка ў татарскім войску распалілася чорная хвароба, і Ахмат быў змушаны адыйсьці. Магчыма гэта было прычынай, што й з боку ВКЛ не былі праведзеныя варожыя дзеяньні супраць Маскоўшчыны.

Цяпер зноў наступіла адноснае зацішша ажно да 1478 году. Тымчасам Ліцьвіны імкнуцца ўзнавіць саюз з крыжакамі Прусыі, куды дзеля гэтага было накіраванае пасольства начале з Якубам Няміровічам у кастрычніку 1472 году.[31] Узнаўленьне гэтага саюзу наступіла відавочна ў 1475 або ў 1476 годзе, бо ў лістападзе 1474 годзе Літоўская Рада паведамляла вялікага магістра Рыхтэнбэрга, што, з прычыны чорнае хваробы ў Прусыі, назначаны на 11 сьнежня 1474 году зьезд у Коўне для падпісаньня «вечнага саюзу» Ліцьвіны пастанавілі адклікаць да больш адпаведнае даты.[32] Прычынайжа, відавочна, была ня «чорная хвароба», але знаходжаньне Казіміра ў Літве. Дасягнуўшы ў лютым 1474 годзе завешаньня вайны з вугорскім каралём Мацьвеям Корвінам на 3 гады, Казімір пачаў цяпер шукаць сабе саюзьнікаў, у тым ліку й у Маскве. Справа у тым, што прыхільны Мацьвею Корвіну Рым навязаў лучнасьць з Маскоўшчынай, і жанімствам Івана III з Соньцай Палеолог жадаў уцягнуць апошняга ў супрацьтурэцкую кааліцыю й такім чынам у саюз з Мацьвеям Корвіным, які ўважаўся Рымам галавою гэтай кааліцыі. Казімір, ведама, ды й як паказваюць ягоныя захады з 1484—1485 гадоў, хацеў перакрыжаваць магчымае зьбліжэньне Маскоўшчыны з Вугоршчынай ды сьхіліць Івана III на свой бок. У верасьні 1474

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

## Мір, але без капітуляцыі

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

сабой неадменную частку праблемы сьветавага маштабу, такая пастаноўка справы — гэта яшчэ далёка ня ўсё. Амэрыканская пазыцыя ў справе Бэрліна ськіваваная ўсяго толькі да захаваньня статусу кво. Праўда, вялікім крокам наперад ёсьць і гэта, калі зважыць, што дагэтуль Захад або ўступаў Савецкаму Саюзу, або йшоў на выгадныя для яго, а шкодныя для сябе кампрамісы. Але ўсё-ж-такі што датычыцца ўсіх іншых важных праблемаў, якія зьяўляюцца прадметам савецкіх пасяганьняў і ствараюць запальнае вогнішча халоднае вайны зь небясьпекай перараджэньня яе ў гарачую вайну, дык Амэрыка яшчэ не заняла такога яснага й цьвёрдага становішча, як у справе Бэрліна.

Ёсьць адно толькі ня зусім выразныя й занадта яшчэ асьцярожныя сымптомы шуканьня новых шляхоў і выпрацоўваньня новае канцэпцыі амэрыканскае палітыкі, якая змагла-б даць падзеям зусім іншы й для вольнага сьвету збаўленны кірунак. Гэтае нязвычайна важнае пытаньне й будзе тэмай нашага наступнага артыкулу.

**Язэп Каранеўскі**

# Прэзыдэнт Кэнэды да Амэрыканскага Народу

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

пак намі нашых правоў — мы гатовы сустрэцца зь імі. Мы ўжо раней выказалі нашу гатовасьць зьліквідаваць усякія яблыкі разкладу ў Заходнім Бэрліне, але свабода гэтага гораду ня можа стацца аб'ектам перамоваў. Мы ня можам весьці перамовы з тымі, хто гаворыць: «Што маё, тое маё, а што ваша, аб гэтым трэба весьці перамовы.» Але мы гатовы разгледзець усякія мерапрыемствы, усякае прапанаванае пагадненьне, якое тычыцца Нямеччыны, сумяшчальныя з захаваньнем міру й свабоды і з законнымі інтарэсамі бясьпекі ўсіх народаў.

«Мы прызнаем гістарычную зацікаўленасьць Савецкага Саюзу ў ахове свае бясьпекі ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе. І мы думаем, што можна выпрацаваць мерапрыемствы, якія ўлічвалі-б гэтую зацікаўленасьць і загарантавалі-б бясьпеку і свабоду ў гэтым неспакойным раёне.

«Бо «ненармальным» у Нямеччыне зьяўляецца сёньня не свабода Заходняга Бэрліну, а ўсё палажэньне ў гэтай падзеленай на дзьве часткі краіне. Калі хто-небудзь сумляваецца ў правамоцнасьці нашых правоў у Бэрліне, мы гатовы перадаць спрэчку на арбітраж. Калі хто-небудзь сумляецца, у якой ступені наша прысутнасьць пажаданая для насельніцтва Заходняга Бэрліну (у параўнаньні з стаўленьнем усходніх немцаў да існуючага ў іхнай краіне рэжыму), мы гатовы паставіць гэтае пытаньне на свабоднае галасаваньне ў Бэрліне ці, магчыма, ува ўсёй Нямеччыне. І няхай скажуць сваё слова і тыя два з палавінай мільёны ўцекачоў, якія ўцяклі ад камуністычнага рэжыму ўва Ўсходняй Нямеччыне — галасуючы нагамі за свабоду на заходні ўзор.

«Камуністычная спроба прыклеіць на Бэрлін ярлык вогнішча вайны, сьвету не ашукае. У Бэрліне пануе мір. Крыніца непакою і напружаньня ў сьвеце знаходзіцца сёньня ў Маскве, а не ў Бэрліне.

І калі пачнецца вайна, дык яна пачнецца ў Маскве, а не ў Бэрліне. Бо альтэрнатыва мір ці вайна — стаіць перад савецкім урадам, а не перад намі. Менавіта савецкі ўрад разьдзьмухвае гэты крызіс. Менавіта ён стараецца накінуць зьмены сілай. Менавіта ён не жадае дапусьціць свабодных выбараў. Менавіта ён адкідае ўсенямецкую ўмову й міжнародна-прававыя пастановы.

«Карацей кажучы, у той час, калі мы гатовы бараніць свае інтарэсы, мы таксама гатовы шукаць міру — у працэсе спакойных перамоваў — на фармальных або нефармальных сустрэчах. Мы ня хочам, каб разважаньні на Ўсходзе або на Захадзе былі ў палоне ваенных меркаваньняў.

«Пакуль працягваюцца высілкі ў гэтай галіне, мы не павінны ігнараваць нашай агульнай адказнасьці, іншых небясьпекаў, іншых заданьняў. Калі пагрозы ў Бэрліне ці яшчэ дзе-небудзь схіляць нас зьменшыць нашу новую праграму дапамогі слабаразьвітым краінам, на якіх таксама робіцца вялікі ціск; калі гэтыя пагрозы спыняць нашыя імкненьні дамагаючыся сапраўднага раззбраеньня; парушаць ці запаволяць нашую эканоміку; схіляць нас зьвярнуць менш увагі на навучаньне нашых дзяцей, — дык тады гэтыя пагрозы стануцца сапраўды самым пасьпяховым і найбольш танным трыкам за ўсю гісторыю камунізму. Бо мы можам сабе дазволіць імкнуцца да ўсіх гэтых мэтаў. Але мы ня можам сабе дазволіць ігнараваць выклік.

«А выклік гэты адрасаваны ня толькі нам. Гэта — выклік кожнай краіне, якая забясьпечыла сваю незалежнасьць пад знакам свабоды. Гэта — выклік усім тым, хто імкнецца да міру, грунтаванага на прынцыпе свабоднага выбару. І асабліва — гэта выклік Атлянтычнай супольнасьці — бацькаўшчыне свабоды чалавека.

«Мы на Захадзе павінны супольна ўзмацняць нашую абаронную магутнасьць. Мы павінны кансультавацца паміж сабой больш цесна, чымся калі-небудзь у мінуўшчыне. Мы павінны супольна распрацаваць нашы мірныя прапановы.

«Атлянтычная супольнасьць краінаў, такая, якой мы яе ведаем, была створаная ў адказ на выклік — выклік эўрапэйскага хаосу ў 1947-ым годзе, вынік блякады Бэрліну ў 1948-ым годзе, выклік камуністычнай агрэсіі ў Карэі ў 1950-ым годзе. І цяпер, узмоцніўшы сваю магутнасьць і дабрабыт, атлянтычная супольнасьць, пасьля дзесяцігодзьдзя бяспрыкладнага прагрэсу, не забудзецца ні свае гісторыі, ні тых прынцыпаў, якія надаюць ёй сэнс.

«Урачыстае абяцаньне, якое ўсе мы далі заходняму Бэрліну ў мірны час, ня будзе парушанае ў пэрыяд небясьпекі. Калі мы ня стрымаем сваіх абяцаньняў адносна Бэрліну, дзе мы апынімся ў канчальным выніку? Калі мы ня будзем верныя свайму слову там, дык усё, чаго мы дамагаліся, страціць свой сэнс.

І калі да вайны ёсьць пэўны шлях, дык гэта шлях слабасьці і адсутнасьці адзінства. Я пераканаты, што гісторыя адзначыць ня толькі тое, што ў Бэрліне быў выратаваны дух свабоды, але й тое, што ў хвіліны небясьпекі, творчы саюз людзей, якія стаяць за мір, надаў гэтаму духу новае пачуцьцё гонару і ўпэўненасьці.

«Сяньня граніца свабоды, якая знаходзіцца пад пагрозай, праходзіць праз падзелены Бэрлін. Мы хочам, каб гэтая граніца засталася граніцай міру. Гэтага спадзяюцца ўсе грамадзяне краінаў атлянтычнай супольнасьці, усе грамадзяне краінаў Ўсходняй Эўропы і — я ўпэўнены — усе грамадзяне Савецкага Саюзу. Бо я адмаўляюся верыць, што народы Савецкага Саюзу, якія мужна перанесьлі вялізарныя страты падчас Другой Сусьветнай вайны, хацелі-б, каб мір зноў быў парушаны ў Нямеччыне. Толькі савецкі ўрад можаператварыць бэрлінскую граніцу міру ў прэтэкст для вайны.»

У канцы свайго звароту прэзыдэнт Кэнэды сказаў:

«Крокі, якія я заплянаваў сяньня, скіраваныя на тое, каб унікнуць такой вайны. І падсумоўваючы, можна сказаць: мы імкнемся да міру, але мы ня зьбіраемся паддавацца.»

**Ф. Кушаль**

# Войны вялікага князя Маскоўскага Івана Трэйцяга зь Вялікім Княствам Літоўскім

(Працяг)

### ДРУГІ ВАЙСКОВЫ НАПАД ІВАНА ТРЭЙЦЯГА НА ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

«Вечны мір», зроблены Іванам Трэйцім з упаўнаважанымі Аляксандра з нагоды ягонае жаніцьбы з Аленаю, трываў толькі пяць год, гэта значыцца якраз столькі часу, колькі спатрэбілася Івану дзеля павялічэньня й рэарганізацыі маскоўскае арміі. У сувязі з распадам Залатое Арды, на вайсковую службу да Івана перайшло шмат Татараў, у тым ліку й вышэйшых камандзераў. Хлусьлівыя даносы Шастакова, якім Іван цалкам верыў, або прыкідваўся, што верыць, давалі яму нагоду мяшацца ў нутраныя справы Вялікага Княства Літоўскага й дачыненьні між цесьцем і зацем усьцяж горшалі. Аляксандар, адылі, лічыў «вечны мір», падпісаны зь Іванам, справай непарушнаю й таму да вайны з Масквою зусім не рыхтаваўся.

У 1499 годзе Іван Трэйці, быццам з прычыны таго, што Аляксандар ня выконвае забавязаньняў, прынятых на сябе пры падпісаньні «вечнага міру», а гэта — не збудаваў дагэтуль для Алены праваслаўнае царквы на замкавым двары, выслаў, узноў не абвяшчаючы вайны, на Вялікае Княства Літоўскае дзьве арміі. Адна зь іх, што складалася пераважна з Татараў, пад камандаю хана Ахмэт Аміна й Якуба Кошкіна, заняла Мцэнск, Масальск, Бранск, Пуціўль ды іншыя Северскія гарады. Другая армія, пад камандаю Юрага Кошкіна, здабыла Дарагабуж. Да яе неўзабаве далучыўся яшчэ й князь Шчэня зь Цьверскім войскам. Армія гэтая, разам 40.000 пехаты й коньніцы, стала табарам на полі Міткі над ракою Вядрошаю, паўдзённым даплывам верхняга Дняпра. Вялікі князь Літоўскі Аляксандар быў у гэным часе ў Менску. Другі напад Івана Трэйцяга на Вялікае Княства Літоўскае засьпеў яго зусім непадрыхтаваным, бо, як, зрэшты й першы напад, быў цалкам неспадзяваным. Аднак, трэба было бараніцца й Аляксандар выслаў напярэймы маскоўскім арміям 3.500 чалавек коньнікаў, якія меў пад рукою, пад камандаю гэтмана Канстантына Астроскага. Коньніца Астроскага складалася пераважна з прадстаўнікоў вышэйшага беларускага баярства й баёвая вартасьць ейная была вельмі высокая. 14-га ліпеня 1500 году передавая разьведка паведаміла гэтману, што на рацы Вядрошы стаіць перадавая ахова маскоўскага войска ў складзе аднаго полку. Гэтман Астроскі адразу ўдарыў на гэты полк і зьнішчыў яго, з разгону ўдараючы й па галоўнай масе маскоўскае арміі. У колькі раз большая за Літоўскую, яна абкружыла коньніцу Астроскага й пасьля даўгое й нязвычайна гераічнае абароны, Астроскі быў разьбіты, а ўсе, што засталіся жывыя, у тым ліку й сам гэтман, трапілі ў маскоўскі палон. Прабіцца праз маскоўскае абкружэньне ўдалося адно чатыром коньнікам: Яцынічу, Валовічу, Няміры й Маськевічу, цяжка параненым. Гэтую сваю перамогу над Вялікім Княствам Літоўскім Маскоўцы пастараліся выкарыстаць дзеля прапаганды свае збройнае магутнасьці. Усе палонныя былі прыгнаныя ў Маскву, дзе іх, закутых у ланцугі, на чале із гэтаксама закутым у зялеза гэтманам Астроскім, правялі ўздоўж залітых натоўпамі маскоўскага жыхарства галоўных вуліцаў места, а тады — парассылалі па розных вязьніцах. Гэтман Астроскі быў засланы ў турму ў Валагдзе й праседзеў там, прыкуты да муру, аж да сьмерці Івана Трэйцяга ў 1505 годзе, калі Іванаў сын Васіль Трэйці, стаўшыся вялікім князем Маскоўскім, вызваліў гэтмана Астроскага з Валагодзкае вязьніцы. Пры вызваленьні зь яго было ўзятае забавязаньне, што ён застанецца да сьмерці на маскоўскай службе. Імкнучыся перахіліць былога ворага на свой бок, Васіль Трэйці надаў Астроскаму баярскі тытул ды надарыў багатымі маёнткамі. І ўсё-ж Літоўскі гэтман Канстантын Астроскі скарыстаў зь першае-ж нагоды, каб уцячы з Маскоўшчыны назад у Літву. Атрымаўшы тутка тытул вялікага гэтмана, ён жорстка памсьціў Маскоўшчыне дазнаныя ў маскоўскім палоне зьдзекі, разьбіўшы 80.000-ную армію Васіля Трэйцяга пад Воршаю ў 1514 годзе.

Пасьля маскоўскае перамогі на рацэ Вядрошы, маскоўская армія здабыла, праўда, адно пасьля зламаньня вельмі зацятае абароны іх нашымі продкамі, месты Старадуб, Чарнігаў, Трубчэўск і Гомель, а ўнук Івана Трэйцяга Дзьмітры быў пасланы здабываць Смаленску.

### ПАДРЫХТОВА ДА ВАЙНЫ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТОЎСКАГА АЛЯКСАНДРА

Пераканаўшыся на прыкладзе апісаных вышэй падзеяў, што Маскоўшчыну ня супыняць ў ейным імкненьні да падбояў ды захопніцтваў ані мірная палітыка, ані сваяцтва, Вялікі Князь Аляксандар пачаў арганізоўваць збройны супраціў Маскве. Ён правёў у Вялікім Княстве Літоўскім мабілізацыю, якая дала яму каля 20.000 жаўнераў, на чале якіх быў пастаўлены Станіслаў Яновіч Белы. Апрача гэтага, Аляксандар паслаў у Польшчу, Нямеччыну й Чэхію вэрбаўнікоў, якія нанялі там за грошы каля 10.000 жаўнераў і зарганізаваў іх у чужаземны легіён пад камандаю чэха Яна Чорнага. Упаўнаважаны Аляксандра, князь Халецкі, быў гэтаксама пасланы й да Заволскіх Татараў дзеля падпісаньня зь імі вайсковага саюзу. Быў падпісаны вайсковы саюз і зь Лівонскім містрам Плятэнбэргам. Былі ўзмоцненыя ўсходнія літоўскія цьвярдыні Смаленск, Ворша, Віцебск і Полацак. На ўсе гэтыя мерапрыемствы Аляксандру спатрэбілася два гады. Напрацягу іх рыхтаваўся да вайны й Іван Трэйці, памацняючы здабытыя кагадзе літоўскія замкі, а князь Дзьмітры, як ужо было прыгадана, здабываў Смаленск, баронены літоўскімі ваяводамі Станіславам Кішкам, Юрым Пацам і Міколам Салагубам. Невялікі, параўнальна, Смаленскі гарнізон бараніўся нязвычайна гераічна. Пасьля двугадовае аблогі, маскоўскі князь Дзьміт-

# XIII Навуковая Канфэрэнцыя й Асамблея Інстытуту Вывучэньня СССР

25-26 ліпеня сёлета ў Мюнхэне адбылася чародная штогодная навуковая канфэрэнцыя, а за ёй, 27-28 ліпеня, штодвугодная цяпер асамблея — агульны зьезд запраўдных сяброў Інстытуту Вывучэньня СССР.

Сёлетняя канфэрэнцыя была прысьвячаная праблеме савецкага каляніялізму ў тэорыі й практыцы, і ўжо гэта забясьпечвала ёй цікавасьць і ажыўленасьць. Да гэтага дайшла яшчэ надзвычайная, даўно ўжо жаданая арганізацыя канфэрэнцыі, якую ўдалося правесьці арганізацыйнай камісіі пад кіраўніцтвам Старшыні Навуковае Рады Інстытуту д-ра Ст. Станкевіча: тэксты ўсіх дакладаў загадзя былі разасланыя ўдзельнікам — упяршыню ў гісторыі Інстытуту й ягоных канфэрэнцыяў — ды, гэткім парадкам, галоўная ўвага была аддадзеная самой дыскусіі над гэтымі дакладамі.

Першага дня канфэрэнцыі, 25 ліпеня, пасьля кароткага адчыненьня канфэрэнцыі ўступнымі словамі старшыні арганізацыйнае камісіі й Навуковае Рады Інстытуту д-ра Ст. Станкевіча, дырэктара д-ра Г. Шульца й амэрыканскага дарадніка праф. О. Фрэдэрыксэна, былі абмеркаваныя тры першыя, цясьней зьвязаныя міжсобку даклады: праф. П. Фэдэнкі — «Асноўныя рысы савецкага каляніялізму — каляніялізму новага тыпу», праф. Ант. Адамовіча — «Каляніяльная палітыка савецкага рэжыму ў дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў СССР» ды д-ра Б. Гаіта — «Туркестан як прыклад савецкае каляніяльнае палітыкі». Найперш прэлегенты адзін па адным у 15-часінных уступных словах выказаліся самі ў сваіх дакладах, за імі выказаліся ў дыскусіі над усімі трыма дакладамі іншыя ахвотнікі, і нарэшце прэлегенты ізноў адзін па адным падвялі вынікі ў 20-часінных заключных словах.

Першы даклад мала даў для высьвеньня пастаўленага ў ім пытаньня, больш зарысоўваючы агульны абраз савецкага каляніялізму ў гістарычнай роўніцы ягонага паўставаньня. Свае назіраньні й цьверджаньні праф. Федэнка ілюстраваў галоўным чынам прыкладамі савецкае канкрэтнае палітыкі ў дачыненьні да Ўкраіны, ня ўспомніўшы ні аднюсенькім словам аб Беларусі, хаця некаторыя аспэкты савецкай каляніяльнай палітыкі, як прыкладам у галіне дэмаграфічнай, куды больш ярка праявіліся на Беларусі, чымся на Ўкраіне. Большая ўвага выпала на ўступную частку другога дакладу, у якой фармулявалася агульная канцэпцыя каляніялізму як такога й ягонага савецкага адменьніка ўпаасобку.

У вызначэньні каляніялізму наагул прэлегент праф. Адамовіч далучыўся да амэрыканскага найаўтарытэтнейшага спэцыялістага ў галіне нацыянальнага пытаньня Ганса Кона, паводля якога каляніялізм «у ягоным найбольш агульным абрысе» становіць сабою «чужынскі рэжым, накінены народу», так што гэтакія, прыкладам, выпадкі, як анэксія тэрыторыі з наданьнем ёй аўтаноміі, дэпартацыя й гэнасыд жыхарства анэктаванае тэрыторыі, дыскрымінацыйнае паняволеньне гэткага жыхарства або асыміляцыя яго на аснове правоў грамадзянства — да каляніялізму не ўваходзяць, выходзяць за ягоныя межы як больш, або яшчэ менш лібэральныя формы паняволеньня. У вызначэньні структуры савецкага каляніялізму прэлегент, выходзячы з палажэньня ведамага саветаведа Барыса Суварына, выразьніў тры ўзроўні выяўленьня савецкага каляніялізму: «агульнасаюзны» — у дачыненьні да ўсяго жыхарства СССР, узровень нацыянальных рэспублікаў СССР — актуальны для тэмы ягонага дакладу, ды ўзровень «сусьветнае сацыялістычнае сыстэмы» — замежжа СССР, пачынаючы ад ягоных калёніяў-«сатэлітаў», паўкалёніяў (як Кітай), прыбочнікаў-«аўтсайдэраў» (як Югаславія), да «апорных базаў», здабываных у парадку г. зв. «дапамогі неразьвітым краём».

Рэзюмэ свайго дасьледваньня тэмы «Нацыянальная палітыка савецкага рэжыму ў дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў СССР» прэлегент даў у наступной формуле: каляніяльная палітыка савецкага рэжыму — рэжыму таталітарнага камуністычнага манапалізму — у дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў СССР, будучы палітыкай савецкага каляніялізму на адным з узроўняў ягонага выяўленьня, становіць сабой палітыку пазбаўленьня народаў гэтых рэспублікаў іхнае палітычнае й эканамічнае незалежнасьці праз каляніяльныя войны супраць іх ды працяг гэтых войнаў — змаганьне зь іхнай апазыцыяй каляніялізму, праз каляніяльную эканамічную эксплятатацыю, праводжаную, галоўна, шляхам аднабаковае пабудовы эканомікі, шляхам зьдзірства каляніяльнага гандлю, абцяжаньня ўтрыманьня каляніяльных войскаў і адміністрацыі, шляхам фінансавае палітыкі «капіталавыймаў» і няспрыяльна абмежаваных капіталаўкладаў ды нарэшце — праз русыфікацыю культурную, моўную й дэмаграфічную, сьціраваную да «мінарызацыі» — даператварэньня ў нацыянальныя мяншыні карэнных нацыянальнасьцяў рэспублікаў ды рашчыненьне іх у «вадзінай сацыялістычнай нацыі» адліванай у расейскай форме з камуністычным зьместам пры дыялектычных узаемных пераходах-прасяканьнях гэтага зьместу й формы.

Д-р Б. Гаід у сваім тэмпэрамэнтным дакладзе намаляваў абраз каляніяльнае гісторыі Туркестану, каляніяльнае эксплятацыі ягонае эканомікі Саветамі, каляніялізацыі краю, савецкае палітыкі засяленьня, як найбольш эфэктыўнае зброі каляніялізму, русыфікацыі, як дарогі каляніяльнае палітыкі ды савецкага каляніялізму.

Першым у дыскусіі над усімі трыма дакладамі выступіў малады аўстрыйскі навучоны д-р Марцін Штыгер, які на папярэдняй канфэрэнцыі меў надзвычайна цікавы даклад пра савецкую моладзь, адзначаны сваім часам у нас у «Бацькаўшчыне». Ён разьвіў сваё азначэньне каляніялізму наагул і савецкага ўпаасобку, дадзенае ім нядаўна на бачынах травенскае кніжкі «Бюлетэню» Інстытуту Вывучэньня СССР. Паводля гэтага азначэньня, якое вельмі трапна й істотна паглыбляе азначэньні іншых навучоных, у тым ліку таго-ж Ганса Кона, каляніялізм — гэта палітыка панаваньня й падняволеньня, базаваная на сьведамасьці чыесь собскае вышэйшасьці, ды валадарства, устаноўленае на базе гэткае палітыкі, а дзейнік гэткае палітыкі — калянізатар — гэта асоба, што, з глездзішча на сваю запраўдную ці ўяўную якасную вышэйшасьць, пачуваецца ўпраўненай ці пакліканай да панаваньня, кіраваньня або ўзгадаваньня іншых асобаў, фактычна ці ўяўна прыналежных да ніжэйшага ўзроўню гістарычнага разьвіцьця. Савецкі каляніялізм у сьвятле гэтага азначэньня — гэта «каляніялізм вышэйшага тыпу», або ультракаляніялізм. Азначэньне д-ра Штыгера будзе ўведзенае ў тэкст дакладу пра каляніяльную палітыку савецкага рэжыму ў дачыненьні да нацыянальных рэспублікаў СССР пры друкаваньні яго, як заявіў аўтар дакладу.

Зь іншых выступленьняў у дыскусіі першага дня канфэрэнцыі трэба адзначыць слова праф. А. Юрчанкі, які разьвіў, галоўна, абгрунтаваньне вызначэньня РСФСР (без нацыянальных аўтаномных рэспублікаў) як мэтраполіі савецкага каляніялізму на ўзроўні нацыянальных рэспублікаў, адзначыўшы канстытуцыйнае замацаваньне яго пад выглядам «фэдэрацыі», паклікаўшыся на адно выказваньне Леніна, ня выкарыстанае ў дакладах ды, апрача таго, слушна паказаў на тую акалічнасьць, што сама «сусьветная сацыялістычная сыстэма» становіць сабою мэтраполію ў дачыненьні да «недаразьвітых краёў» і наагул цэлага некамуністычнага сьвету. Прэзыдэнт Рады БНР інж. М. Абрамчык гаварыў пра спалучанасьць «гарызантальнае» (сацыяльнае) ды «вэртыкальнае» (нацыянальнае) роўніцаў у савецкім каляніялізьме. Цэлы рад паасобных зазначэньняў да дакладаў і закранутых у іх праблемаў зрабілі ў сваіх выступленьнях у дыскусіі д-р Э. Кірымал, праф. Болько фон Рыхтгофэн, праф. Даўлечын, праф. Тоган, д-р Барыс, д-р Банайтыс, Міроненка ды інш.

Жменька выступленьняў — д-ра Білінскага, Я. Мацкевіча, праф. Вальтэрса, рэдактара Сьветава, часткава сп. Галая — станавіла сабою спробы адмаўленьня магчымасьці прытарнаваньня тэрміну «каляніялізм» да савецкае запраўднасьці наагул. Спробы гэтыя выходзілі, галоўна, ад прарасейсканастроеных нерасейцаў ды й ад адзінак самых Расейцаў. У іншых выступленьнях ды ў заключных словах па дакладах спробы гэтыя былі бязь цяжкасьці адведзеныя.

У сваіх заключных словах усе прэлегенты адзначылі прыкры факт, што, не зважаючы на тое, што тэксты дакладаў былі разасланыя загадзя, шмат хто з тых, што выступалі, ды асабліва спрабавалі адмаўляць факт савецкага каляніялізму, не парупіліся з належнай увагай прачытаць самыя гэтыя тэксты. Праф. Федэнка трапна падчыркнуў, што Расеец і бальшавік Ленін, быўшы на эміграцыі сваім часам, выкрываў расейскі царскі каляніялізм, тымчасам як сяньняшнія расейскія эмігранты, антыбальшавікі й «лібэралы», спрабуюць затушоўваць, ато й зусім адмаўляць каляніялізм савецкі. Праф. Адамовіч паказаў няслушнасьць недыялектычнага падыходу да наскрозь дыялектычнага камунізму, тарнаваньня да яго недыялектычнага, «мэтафізычнага», паводля дыялектыкаў, падыходу «або-або» (або «каляніялізм» — або «камунізм», або «цалком новы» — або стары, або «гарызантальны» — або «вэртыкальны», або тэрытарыяльны — або нацыянальны, або нацыянальны — або інтэрнацыянальны й г. д.), тымчасам як тут адзіна праўны падыход — гэта падыход з боку «дыялектычнага адзінства супрацьлежнасьцяў», «і — і» (і каляніялізм і камунізм, і новы і стары, і «гарызантальны» і «вэртыкальны», і тэрытарыяльны і нацыянальны, і нацыянальны і інтэрнацыянальны й г. д.). Др. Гаід тэмпэрамэнтна й грунтоўна бараніў родны Туркестан ад спробаў недабачыць у ім савецкую калёнію.

Другі дзень канфэрэнцыі, 26 ліпеня, да паўдня пайшоў на абмеркаваньне дакладу кэльнскага навучонага д-ра Ганса Брэкера — «Савецкая палітыка ў дачы-

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

году ён высылае ў Маскву свайго пасла Багдана, відавочна літоўскага маршалка Багдана Андрэевіча. Адказам было пасольства Івана III начале з Васілём Кітаем і Федзькам Мансуравым у красавіку 1475 годзе ды зноў пасольства Казіміра з тым-жа Багданам у верасьні гэтага-ж 1475 году. Гэтыя перамовы, ведама, не маглі прывесьці да чагосьці пазытыўнага, папершае таму, што Іван III зусім ня цікавіўся справамі турэцкай экспансыі, а падругое, што ён рабіўся сам усё больш агрэсыўным адносна ВКЛ. У 1474 годзе, з свайго боку, Іван III ухапіўся за прапанову крымскага хана Мэнглі-Гірэя ўвайсьці ў саюз з апошнім. Праўда, Мэнглі-Гірэй быў таксама саюзьнікам Літвы, і ён прапанаваў саюз з Маскоўшчынай толькі супраць хана Вялікай Арды Ахмата, не ламаючы сваіх добрасуседзкіх адносінаў зь Літвой. У адказным першым пасольстве ў Крым з Мікітам Беклемішавым, высланым у сакавіку 1474 годзе, Іван III дамагаўся ад Мэнглі-Гірэя такога саюзу й саюзнае ўмовы, у якой прыгадываліся-б пайменна «супольныя ворагі», — хан Ахмат і кароль Казімір ды Мэнглі-Гірэй забавязаўся дапамагаць Івану III як у змаганьні супраць хана Ахмата, так і супраць Казіміра ці ВКЛ.[33] Мэнглі-Гірэй з гэтае прапанаванае Масквой дагаворнае граматы выкрасьліў спасылку на «караля» й зьвязаныя зь ей забавязаньні, паясьняючы гэта тым, што Крым ад даўжэйшага часу знаходзіцца ў добрасуседзкіх адносінах з ВКЛ, а таму й цяпер жадае падтрымоўваць гэтую традыцыю. З апошняе дагаворнае граматы Мэнглі-Гірэя Іван III з свайго боку выкрасьліў імя Ахмата, і ў наступным пасольстве ў Крым, якое было выслана з Аляксеем Старковым у сакавіку 1475 году, але якое не дасягнула свае мэты, бо Мэнглі-Гірэй быў захоплены ў палон Туркамі, ён зноў дамагаўся ўпісаньня ў грамату «караля», выкручваючыся ў той час ад сваіх забавязаньняў адносна хана Ахмата. Пайменна, у прапанаванай для падпісаньня ўмове значылася: «...а именем и на короля есми на твоего недруга с тобою один человек. А коли мой недруг Ахмат царь пойдет на меня на Менгли-Гирея царя, и тобе моему брату великому князю царевичев своих Даньяра и Муртазу на Орду отпущати». У выпадку, калі й на гэта ня згодзіцца Мэнглі-Гірэй, Аляксей Старкоў меўся прасіць захаваньня поўнага нэўтралітэту Мэнглі-Гірэям у канфлікце Маскоўшчыны з ВКЛ: «...каково дело у нас состанется с королем, и ты бы моему недругу королю на меня не помогал».[34]

Як бачым, першы сваім ворагам Іван III лічыў Казіміра, у дадзеным выпадку Вялікае Княства Літоўскае, тым больш, як паказваюць успомненыя пасольскія запіскі, ён плянаваў і спадзяваўся на хуткі канфлікт з ВКЛ. У гэты-ж час Іван III меў сувязь таксама з ханам Ахматам, спадзяваючыся адарваць яго ад саюзу зь Ліцьвінамі.[35] Такім чынам, захады Казіміра ў Маскве мусілі канчыцца правалам. Таму ён хутка, наўсуперак намаганьняў Рыму скалаціць кааліцыю супраць Турцыі, проста зьвяртаецца да турэцкага султана Магамэта II, высылаючы да яго ў тым-жа 1475 годзе харунжага Марціна з прапановай падпісаньня саюзу з Польшчай.[36] Магамэт II прыняў гэтую прапанову Казіміра ды паабяцаў выслаць сваіх паслоў для падпісаньня «сяброўскага саюзу».[37] Пра гэта ён паведаміў Казіміра ў траўні 1476 году, але крыху пазьней ён нападае на землі малдаўскага ваяводы Сьцяпана, леньніка Казіміра, ды прымушае таксама й самых Палякоў хапіцца за зброю ў Галіцыі й заходнім Падольлі.[38] У 1475 годзе Казімір таксама прапанаваў сваё пасярэдніцтва ў спрэчках між лівонскім магістрам і рыжскім біскупам, намагаючыся гэтым самым перацягнуць на свой бок лівонскага магістра ды забясьпечыцца ягонай нэўтральнасьцяй у няўхільным канфлікце Польшчы з Крыжацкім ордэнам Прусіі, гэтага патэнцыяльнага саюзьніка вугорскага караля Мацьвея Корвіна.

---

[31] **Codex epistolaris,** t. III, nr. 148, p. 172.
[32] **Ibid.,** nr. 188, p. 212.
[33] **Сборник Императорского Русского Исторического Общества,** т. 41, С.-Петербург, 1882, № 1, б. 1—5.
[34] Там-жа, № 2, б. 9—13.
[35] **Иоасафовская летопись,** Масква, 1957, б. 88—90.
[36] **Codex epistolaris,** t. III, nr. 204 ,p. 224.
[37] **Ibid.,** nr. 222, p. 243—244.
[38] **Ibid.,** nr. 226, p. 246.

**(Працяг у наступным нумары)**

**П. Урбан**

---

ры, паклаўшы пад Смаленскам шмат тысячаў войска, усё-ж здабыць места не патрапіў.

Скончыўшы падрыхтову да вайны, увесну 1501 году Вялікі Князь Літоўскі Аляксандар пачаў, стаўшы сам на чале арміі, наступ на Маскоўшчыну. Калі ягонае войска перайшло на ўсходні бераг Дняпра, Дзьмітры пакінуў аблогу Смаленску й адыйшоў на ўсход.

Якраз у гэтым часе князь Міхал Лінгвіневіч, ваявода Мсьціслаўскі, разьбіў быў пад Мсьціслаўлем маскоўскае войска пад камандаю князя Мажайскага, а заволскія Татары, што былі ў саюзе зь Літвою, напалі на паўдзённую Маскоўшчыну пустошачы яе й палячы, а пасьлей — здабываючы месты Ноўгарад Северскі, Бранск, Старадуб, Рыльск ды інш., якія былі перададзеныя неўзабаве князю Халецкаму, упаўнаважанаму Вялікага Княства Літоўскага. Гэтаксама й Лівонскі містар Плятэнбэрг разьбіў маскоўскае войска пад Ізборскам. Ваеннае шчасьце выразна перахілялася на Аляксандраў бок. Іванжа Трэйці апынуўся ў вельмі цяжкім палажэньні. Іванавыараднікі — баяры раілі яму прасіць у Аляксандра міру. І маскоўскі Вялікі Князь напэўна-б гэтак зрабіў, каб не адна падзея, якая зьмяніла бег выпадкаў у Вялікім Княсьцьве Літоўскім. Падзеяй гэтай была сьмерць старэйшага Аляксандравага брата Яна Ольбрахта, караля Польскага. Апынуўшыся без караля, палякі прыслалі ў дзейную армію Аляксандра паслоў, прасіць яго прыняць польскую карону. Аляксандар згадзіўся і, пакінуўшы сваім заступнікам Мсьціслаўскага князя Лінгвіневіча, паехаў у Кракаў. Ад'езд вялікага князя Аляксандра ў Польшчу зрабіў вельмі цяжкое ўражаньне на Літоўскую армію й настрой жаўнераў адразу пагоршыўся.

Пасьля ад'езду Аляксандра, князь Лінгвіневіч сьцягнуў усё войска, што было пад ягонаю камандаю, пад Амсьціслаў, ствараючы, гэткім чынам, моцную ўдарную групу, падпарадкаваную ягоным беспасярэдным загадам.

Тымчасам, прыбыўшы ў Кракаў, Аляксандар быў каранаваны на Польскага караля, але адзін, бяз жонкі, бо, паводля польскіх законаў, каралём ці каралеваю Польшчы маглі быць адно асобы каталіцкага веравызнаньня. Алена, гэткім чынам, адмаўляючыся перайсьці ў каталіцтва, засталася жонкаю караля, але каралеваю быць не магла.

Іван Трэйці вельмі хутка спахапіўся ў палажэньні, якое стварылася на Ліцьве й завярнуў князя Дзьмітрага назад, другі раз здабываць Смаленск. Места бараніў ваявода Глябовіч. Пасьля колькімесячнага здабываньня, страціўшы 6.000 жаўнераў, Дзьмітры быў прымушаны ўзноў пакінуць Смаленскія муры й адступіць на ўсход.

Як ужо прыгадвалася, літоўскае войска было сканцэнтраванае пад местам Амсьціслаўлем. Камандаваў ім князь Лінгвіневіч. Вось, Іван Трэйці й наважыў даць Вялікаму Княству Літоўскаму вырашальную бітву пад Амсьціславам. Ён спалучыў разьбітае ўжо аднойчы войска князя Мажайскага з войскам Васіля Шамякіна, ствараючы вялікую, у колькі раз большую за літоўскую, армію пад спалучанаю камандаю Шамякіна й Мажайскага. Арміяй Вялікага Княства Літоўскага камандавалі Лінгвіневіч і Яўстафі Дашкевіч.

4-га лістапада 1501 году пад Амсьціславам адбылася вялікая бітва. Літоўская армія, страціўшы звыш 7.000 забітымі й шмат балей параненымі, была разьбітая. Атрымаўшы гэткую незапярэчную перамогу над зьненавіджанаю Літвою, Іван Трэйці паслаў свайго ўнука Дзьмітрага трэйці раз здабываць Смаленск. Але й гэтым разам здабыць гераічную цьвярдыню Дзьмітру не ўдалося.

Пасьля свае вялікае перамогі пад Амсьціславам, Іван Трэйці, чуючыся бясьпечным ад захаду, накіраваў свой наступ на Севершчыну, каб пазбыцца Аляксандравага саюзьніка — хана заволскіх татараў Ахмэта. Не дачакаўшыся пераняцьця Літоўскім войскам, здабытай і перададзенай ўпаўнаважанаму Аляксандра князю Халецкаму, прасторы Севершчыны, Ахмэт, даведаўшыся аб набліжэньні маскоўскага войска, пакінуў здабытыя абшары й адыйшоў на Дон. Гэткім чынам Севершчына ўзноў, бяз ніякага бою, перайшла пад маскоўскую акупацыю. Не дачакаўся падтрыманьня свае акцыі Аляксандрам і Лівонскі містар Плятэнбэрг.

## ІНТЭРВЭНЦЫЯ ЗАХОДНЯЕ ЭЎРОПЫ Ў СПРАВЕ ВАЙНЫ МІЖ МАСКОЎШЧЫНАЙ І ВЯЛІКІМ КНЯСТВАМ ЛІТОЎСКІМ

Даўгая, бо пачатая яшчэ ў 1492 годзе, крывавая вайна між Маскоўшчынай і Вялікім Княствам Літоўскім, адбівалася ў Заходняй Эўропе трывожным і сумным рэхам. Заходняя Эўропа была тады пад паважнаю пагрозаю Турэччыны і ўсё заходня-эўрапэйскае хрысьціянства апынулася ў вабліччы вялікае мусульманскае небясьпекі. Польшча вельмі актыўна змагалася з Турэччынаю, але, як ведама, была пабітая ёю ў 1444 годзе пад Варнаю. Дзесяць год пасьля гэтае перамогі над Польшчаю, туркі былі здабылі Канстантынопаль. У 1497 годзе польская армія пад камандаю караля Яна Ольбрахта была ўзноў разьбітая турэцкай арміяй пад Махачом на Букавіне й гэтая апошняя перамога Ісляму асабліва ўстрывожыла заходня-эўрапэйскія краіны. У пачатку 1502 году ў Маскву прыбыў Папскі Нунцый кардынал Пётра Рэггія й упаўнаважаны Вугорскага караля, з мэтаю памірыць Івана Трэйцяга зь Вялікім Княствам Літоўскім ды прапанаваць Івану далучыцца да Лігі Хрысьціянскіх Дзяржаваў, накіраваную супраць Турэччыны. Іван Трэйці прырок увайсьці ў Лігу, але з умоваю, каб Вялікае Княства Літоўскае, шмат што аддаўшы Маскве, падпісала зь Іванам мір. Пачаліся даўгія дыпляматычныя перамовы між старонамі. Нарэшце, вялікі князь Літоўскі й кароль Польскі выслаў у Маскву дзеля мірных перамоваў паслоў: ваяводу Полацкага Станіслава Глябовіча, Вайцеха Яновіча, Івана Сапегу й трох польскіх прадстаўнікоў.

Як ставілася да згаданых перамоваў і наагул да заіснавалых літоўска-маскоўскіх дачыненьняў Аляксандрава жонка Алена, дачка Івана Трэйцяга, — відаць зь ейнага ліста да бацькі, перасланага ёю ў Маскву праз аднаго з Аляксандравых паслоў — Івана Сапегу, а ўзятага зь «Истории России с древнейших времен», гісторыка С. М. Салаўёва.

**(Далей будзе)**

# XIII Навуковая Канфэрэнцыя й Асамблея Інстытуту Вывучэньня СССР

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

неньні да краёў камуністычнага рэжыму ў эканамічным аспэкце» — ды судакладаў да яго сп. С. Штольтэ — «Ці значыць створаная Масквой імпэрыя Рады Эканамічнай Узаемадапамогі для краёў-удзельнікаў калянізацыю ці вызваленьне?» — ды амэрыканскага мічыганскага прафэсара В. Б. Баліса — «Вонкавая Манголія: выпадак для вывучэньня савецкага каляніялізму».

Палажэньні праф. Брэкера й Штольтэ найлепш былі зрэзюмаваныя ў судакладзе апошняга: калі вялікая дзяржава сілаю зброі і ў крывавых баёх накідае малым краём (савецкай зоне Нямеччыны, Вугоршчыне ды інш.) на свой угляд урады; калі яна ў краёх, не загрожаных у ваенным дачыненьні трэйцяй дзяржавай (Польшча, савецкая зона Нямеччыны, Вугоршчына) трымае войска; калі яна ў моц міжнародных прывілеяў, здабытых прымусам, трымае пад кантролем важную водную дарогу, што зьвязвае міжсобку народы, ды карыстаецца гэтым кантролем дзеля палітычнага й эканамічнага ціску; калі пад кіраўніцтвам гэтае дзяржавы творыцца на тэрыторыі вялізарнага памеру эканамічны лад, пры якім малыя краі-ўдзельнікі трапляюць пад эканамічную залежнасьць; калі гэтая дзяржава ў гэтых краёх творыць эканамічную манаполію, што адхіляе эканамічную канкурэнцыю іншых краёў, тымчасам як сама яна можа купляць за танныя й прадаваць за дарагія цэны, — дык такую дзяржаву нат з гледзішча марксізму-ленінізму можна назваць адно «імпэрыялістычнай» ды каляніялістычнай.

Праф. Баліс у сваім судакладзе падаў грунтоўна ўсю гісторыю ўстанаўленьня каляніяльнае залежнасьці Вонкавай Манголіі — цяпер Мангольскай Народнай Рэспублікі — спачатку ад расейскай царскай, а тады савецкай імпэрыі, што ўстанавіла там лад, пры якім, паводля трапнага азначэньня прафэсара, «партыя (г. зв. «Мангольская Народная Партыя» ў дадзеным выпадку) — гэта рука, а ўрад — рукавічка», хоць у канцы, з усёй асьцярожнасьцяй амэрыканскага навучонага, назваў гэтую залежнасьць усяго «квазы-каляніяльнай» (а ў расейскім, аўтарызаваным тэксьце нат «паўкаляніяльнай»).

У дыскусіі над дакладамі выплыла ізноў справа русыфікацыі, закранутая мімабегам у судакладзе сп. Штольтэ й пастаўленая ў роўніцы савецкага каляніялізму на ўзроўні «сусьветнае сацыялістычнае сыстэмы» ў выступленьні да гэтага судакладу праф. Адамовічам, што паказаў на першы этап моўнае русыфікацыі на гэтым узроўні — этап высоўваньня й прасоўваньня расейскае мовы, як «мовы Леніна», «мовы ленінізму-марксізму» (Штольтэ), ад чаго пачыналася сваім часам і русыфікацыя ў нацыянальных рэспубліках СССР і што завяршаецца цяпер ідэялягічнай ды псыхалягічнай, навет псыхіятрычнай русыфікацыяй самога расейскага народу, пра якую гаварылася на леташняй канфэрэнцыі Інстытуту ды ў дакладзе пра каляніяльную палітыку ў нацыянальных рэспубліках на канфэрэнцыі сёлетняй. У гэтым выступленьні таксама была зьвернутая ўвага на тую акалічнасьць, што расейская нацыя ніколі ня будавалася на замкнёнай расейскай аснове, як гэта адзначыў і ведамы дасьледнік Вальтэр Колярц, а прыналежнасьць да яе вызначалася да рэвалюцыі прыналежнасьцяй да расейскае праваслаўнае царквы, як цывілізацыйнага дзейніка, апанаваньнем расейскае мовы й прыняцьцем расейскае нацыянальнае сьведамасьці, пасьля рэвалюцыі-ж тым самым, з тэй розьніцай, што ў ролі цывілізацыйнага дзейніка выступіў на першы плян бальшавізм (партыйны й «непартыйны»), а расейскае праваслаўе адыйшло на зусім задні плян, дзе прыналежнасьць да яго грае ролю адно для «ворганаў дзяржаўнае бясьпекі» пры ацэне нацыянальна-палітычнае бясьпечнасьці асобы. І да рэвалюцыі і пасьля найчасьцей найбольшымі Расейцамі выступалі якраз асобы нерасейскага расавага паходжаньня, перакінчыкі й пярэхрысты, якіх, прыкладам, беларускі нацыянальны рух часоў «Нашае Нівы» называў «истинно-русскими» і пра якіх сваймі часамі пісалі царскі міністар граф Вітэ, а найвайстрэй — сам Ленін у сваім г. зв. «Запавеце», пра што ўжо ўспаміналася ў дыскусіях на аднэй з папярэдніх канфэрэнцыяў Інстытуту.

Па паўдні таго-ж дня быў абмеркаваны даклад сп-ні Сузанны Лябэн — «Палітычная, эканамічная й тактычная дзейнасьць савецкага ўраду ў эканамічна адсталых краёх» — із судакладам да яго праф. А. Главінскага — «Савецкая эканамічная экспансія ў краёх, што разьвіваюцца». Выдатная француская пісьменьніца й палітычная дзеячка, сп-ня Лябэн паланіла ўсіх бліскучасьцяй і вайстрынёй свайго выступленьня. Пачала яна ад сьцьверджаньня, што «хоць эканамічна слаба разьвітыя краі і становяць сабой удзячнае поле дзеяньня для міжнароднага камунізму, усё-ж, жыцьцё або сьмерць вольнага сьвету разважваецца ў Вашынгтоне, Лёндане й Парыжы» і на гэтай аснове ўсе свае назіраньні й высновы прадставіла ў форме палажэньняў, скіраваных да ўсьведамленьня кіраўнічых колаў гэтых сусьветных цэнтраў.

У сваім абшырным дакладзе яна асьветліла найперш палітычную дзейнасьць савецкага ўраду ў эканамічна адсталых краёх, яскрава паказаўшы тут «чырвоных ведзьмяроў сярод нэгрыцянскіх племяў» — і іхную прапаганду, арганізацыю, інфільтрацыю, замаскаваныя камуністычныя пляцоўкі, мэтад арганізацыйных паездак, «паводкі словаў», выкарыстаньне спэцыяльных школаў, нацыянальных мяншыняў, дыпляматычнага корпусу, тэмаў савецкае палітычнае агітацыі (адказаў на пытаньні: хлеб або свабода? ці камунізм носьбіт тэхнічнага разьвіцьця ў эканамічна адсталых краёх?) ды кірунку «супраць усяго» — «анты» — (антыкаляніялізм і г. д.). Далей была асьветленая савецкая тактыка ў эканамічна адсталых краёх фарсаваньня «нэўтралізму», «народнага фронту» ў міжнародным маштабе — ды прааналізаваная савецкая эканамічная дапамога як адзін з сэктараў палітычнае дзейнасьці. Было паказана, як эканамічная дапамога СССР даецца рукамі краёў камуністычнага блёку, як савецкі ўрад нічога не дае дарма, як ён зьвязвае эканоміку краёў, якім памагае, з эканомікаю СССР, як прышчапляе камуністычныя ідэі мясцовым тэхнічным кадрам, як стварае выгляд куды шырэйшае эканамічнае дапамогі, чымся ёсьць на самой рэчы, як вяжа сваю дапамогу з палітычнымі ўмовамі, як пасылае вялізарную колькасьць тэхнікаў-прапагандыстых пры гэтым, як канцэнтруе сваю ўвагу на праектах, што робяць большы эфэкт, як ужывае бяшчэсныя манэўры супраць амэрыканскае дапамогі ды якія рашчараваньні выклікае ўжо цэлай сваёй дапамаговай акцыяй. Нарэшце, была зробленая спроба адказаць на пытаньне, як можна вытлумачыць удачы Саветаў у эканамічна адсталых краёх, разьвіцьцём наступных палажэньняў: 1. СССР, прэтэндуючы на матарыялізм, дзеіць адно на мазгі, 2. савецкі ўрад будуе свае разьлікі на ўзбуджаньні ненавісьці й ствараньні мітаў, а не на здавальненьні патрэбаў народаў, 3. ён імкнецца да таго, каб змусіць Захад аплачваць нутраную структуру тых краёў, якія хоча падпарадкаваць сабе, ды 4. мэта Саветаў у эканамічна адсталых краёх — індустрыялізаваць гэтыя краі ня вызваляючы іх.

У друкаваным тэксьце свайго дакладу й у вусным уступным слове да яго сп-ня Лябэн дала шмат бліскучых, войстрых і надзвычайна трапных фармулёвак, як «савецкая дзяржава — гэта не дзяржава, а камуністычная партыя, а камуністычныя партыі вонках Савецкага Саюзу — гэта не палітычныя партыі, а савецкая дзяржава», у сувязі з чым уведзены вельмі трапны й патрэбны тэрмін «партакратыя», «камунізм — гэта не няправільны адказ на імкненьні народных масаў у патрэбе, а цынічны шлях здавальненьня прагі ўлады з боку новае абсалютыстычнае клясы», «ідэялёгія — гэта толькі той сьветач, які камуністычныя прапагандыстыя й арганізатары запальваюць, каб асьвятляць шлях для праводжаньня сваіх мэтаў, але альфа й амэга савецкае палітыкі, праводжанае камуністычнай інтэлігенцыяй, — гэта ўстанаўленьне ўсюды таталітарнае ўлады, якая ўпяршыню ў гісторыі засяроджвае ў руках бюракратыі, фармаванай вакол партыі, кантроль над **усімі** абсягамі жыцьця грамадзтва: эканамічным, культурным, сацыяльным і палітычным» — і г. д., і г. д. Наагул, пераказаць увесь бліскучы даклад сп-ні Лябэн няма змогі, і «Бацькаўшчына» толькі зрабіла-б карысную й прыемную прыслугу сваім чытачом, каб выдрукавала яго цалкам на сваіх бачынах.

Праф. А. Главінскі ў сваім судакладзе даў багаты фактычны й цікавы матарыял, выснаваўшы з аналізу яго, што «ў сваіх абсалютных памерах эканамічная агрэсія Савецкага Саюзу ў краі, што разьвіваюцца, ня гэтак значная; аднак, нельга не дацэньваць ейнага псыхалягічнага эфэкту. Бальшавіцкая прапаганда ўмела выкарыстоўвае злапомнасьць былых каляніяльных народаў у дачыненьні да заходня-эўрапэйскіх краёў, памылкі мінулае й няўдалыя мерапрыемствы сучаснае палітыкі вольнага сьвету, недазнанасьць і амбіцыі кіраўнікоў новаўтвораных дзяржаваў, і гэта дае бальшавіком магчымасьць разам з эканамічнай інфільтрацыяй шырыць і свой палітычны ўплыў».

У дыскусіі над дакладам сп-ні Лябэн і судакладам праф. Главінскага бальшыня прамоўцаў выказвала сваё захапленьне выступам бліскучае й тэмпэрамэнтнае Францускі. Ведамы лідэр расейскіх сацыял-дэмакратаў «меншавікоў» Б. Нікалаеўскі, узяўшы слова ў дыскусіі, кінуў сп-ні Лябэн дакор таго-ж самага парадку, што высоўвалі Расейцы й прарасейцы ў першым дні канфэрэнцыі — у надужываньні каляніялістычнай тэрміналёгіяй. Ён выказаўся супраць «аднабаковага канцэнтраваньня на лёзунгу змаганьня з савецкім каляніялізмам» у сучасным мамэньце, калі бальшавікі сканцэнтраваныя на завяршэньні выпрацаваньня свае новае партыйнае праграмы, ды паставіў пытаньне, ці лёзунг змаганьня з савецкім каляніялізмам будзе гуртавальным у самым СССР для савецкае інтэлігенцыі, як галоўнага патэнцыяльнага носьбіта апазыцыі там, у чым ён зусім няпэўны. Нікалаеўскаму адказвалі праф. Адамовіч і сп. Н. Цэнцадзэ. Першы, на аснове свайго дазнаньня з часоў зьняволеньня ў бальшавіцкіх турмах і ўражаньняў некаторых амэрыканскіх навучоных, што нядаўна наведалі СССР, як, прыкладам, др. Р. Пайпс, адмаўляў шавіністычнасьць расейскае савецкае інтэлігенцыі, для якое, на ягоную думку, лёзунг змаганьня з савецкім каляніялізмам можа быць адным з гуртавальных лёзунгаў. Што-ж да «аднабаковасьці канцэнтрацыі», дык дакор ў ёй не адпаведны для навуковае канфэрэнцыі, як і ўсё перанясеньне справы Нікалаеўскім з роўніцы навуковага дасьледваньня ў роўніцу палітычнага змаганьня. Супраць гэтага перанясеньня пратэставаў і Н. Цэнцадзэ. У сваім заключным слове сп-ня Лябэн таксама, між іншага, адвяла пастаўлены ёй Нікалаеўскім дакор.

Зачыняючы канфэрэнцыю, д-р Ст. Станкевіч і д-р Г. Шульц, што адчынялі яе, дзякавалі ўсім удзельнікам, адзначаючы вялікую цікавасьць, ажыўленасьць і высокі ўзровень канфэрэнцыі. І запраўды, што да ўсіх гэтых мамэнтаў, дадаючы да іх яшчэ арганізацыйную ўмеласьць і паважную фрэквэнцыю, XIII канфэрэнцыя можа быць прызнанай за адну з найпамысьнейшых дасюлешніх канфэрэнцыяў Інстытуту.

На асамблеі сяброў Інстытуту, першага дня, 27 ліпеня, былі прынятыя новымі запраўднымі сябрамі расейскія навучоныя праф. Паплюйка й рэд. Пісьменны (на месцы памерлых сяброў праф. Р. Зоргенфрай і праф. Мярцалава) ды ўкраінскія праф. Г. Касьцюк ды Гаенка (на месцы памерлых праф. Васільева й праф. Мірчука); у канцы канфэрэнцыі яшчэ быў прыняты новым сябром азэрбайджанскі навучоны Хаджыбэйлі. Былі таксама выслуханыя справаздачы Навуковае Рады й Дырэкцыі Інстытуту за 1959/60 ды 1960/61 гады, прадстаўленыя старшынём Навуковае Рады д-рам Ст. Станкевічам, дырэктарам Інстытуту д-рам Г. Шульцам і ягоным заступнікам праф. І. Бакалам.

Другога дня, 28 ліпеня, адбылася рэчавая дыскусія над справаздачамі, у якой часта выказваўся жаль з повАду часовага прыпыненьня выданьня нацыянальных зборнікаў (беларускага, украінскага, расейскага «Вестника» й інш.) дзеля цяжкога грашовага палажэньня, у якім апыніўся Інстытут. Справаздачы былі зацьверджаныя й Навуковай Радзе ды Дырэкцыі прызнаны абсалюторыюм з падзякаю за працу ў цяжкіх абставінах. Адмысловая падзяка за доўгагодную працу ў Інстытуце была выказаная сябру Дырэкцыі, навучонаму сакратару Інстытуту праф. А. Мілеру, выдатнаму й заслужанаму археалёгу, які перайшоў ужо на выслужаную гадамі пэнсію.

У новую Дырэкцыю Інстытуту былі абраныя за Дырэктара — дасюлешні Дырэктар д-р Г. Шульц, за ягонага заступніка — дасюлешні заступнік праф. І. Бакала, ды за Навучонага Сакратара — дасюлешні Старшыня Навуковай Рады д-р Ст. Станкевіч (апошні аднагалосна). У Навуковую Раду былі абраныя д-р А. Бэрдымурат (ад Туркестану), праф. Т. Даўлечын (ад Татара-Башкіраў), д-р Р. Карча (ад Паўночнага Каўказу), д-р Э. Кірымал (ад Крыму), д-р С. Тарасян (ад Армянаў), д-р Б. Чэнкелі (ад Грузінаў), рэд. М. Эмірджан (ад Азэрбайджанаў), праф. Ант. Адамовіч (ад Беларусаў), праф. А. Юрчанка й праф. П. Федэнка (ад Украінцаў) ды праф. Н. Новак-Дэкер і Н. Галай (ад Расейцаў). Зараз-жа пасьля асамблеі Навуковая Рада абрала на свайго старшыню д-ра С. Тарасяна.

Зачыняючы асамблею, старшыня яе праф. Адамовіч выказаў надзею знайсьці Інстытут на наступнай асамблеі за два гады ў лепшых матарыяльных абставінах і з новымі дасягненьнямі ды з усімі дасюлешнімі сябрамі ў добрым здароўі.

**Супрацавень**

# Зь беларускага жыцьця

## ПАНІХІДА ПА ЗАГУБЛЕНЫХ БАЛЬШАВІКАМІ

У нядзелю 9 ліпеня ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку была адпраўленая паніхіда па ахвярах бальшавіцкага пагрому беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі й наагул больш сьведамай нацыянальна часткі беларускага народу. Паніхіду адправіў Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскап Васіль у суслужэньні пратаерэя а. Мікалая.

Трэба сказаць, што ў нашай нацыянальнай прэсе гэтая страшная падзея асьветленая зусім недастаткова, нібы яна ў радзе іншых ня мае паважнейшага значэньня. Для прыкладу, у 30-ую гадавіну гэтае жалобнае падзеі летась на адмысловай акадэміі ў Нью Ёрку факт неналежнага асьвятленьня яе вельмі моцна акцэнтаваўся, а ў «Бацькаўшчыне» гэтая гадавіна была адзначаная пару дзесяткамі радкоў — паведамленьнем аб адбытай акадэміі. Наагул, у нашай пэрыядычнай прэсе аб гэтым бальшавіцкім пагроме, як уплянаванай акцыі выгубленьня беларускага нацыянальнага актыву, знойдзем няшмат. Шырэйшыя колы беларускага грамадзтва на эміграцыі ведаюць аб гэтым вельмі мала, а моладзь, бадай, нічога.

Тымчасам, прыгаданы паход чырвонае Масквы супраць Беларусаў, як нацыі, такі цяжкі ў ахвярах і такі згубны ў выніках, што й цяпер у нашым нацыянальна-арганізаваным жыцьці становіць найбольшую бяду. Пачаты ў трыццатых гадох так званы пагром нацдэмаў пацягнуў тысячы ахвяраў, а пашыраны на ўвесь народ, ён вырваў і загубіў мільёны лепшых сыноў і дачок нашага народу. У выніку — жахлівае вынішчэньне нацыянальных кадраў у БССР ды вельмі далёка пасунутае зьнішчэньне агульна-нацыянальнага патэнцыялу.

Аб гэтым бальшавіцкім злачынстве ў дачыненьні да нашага народу павінен ведаць кажны Беларус і належна яго ўсьведаміць. Аб ім павінен шырэй і глыбей ведаць і ўвесь вольны сьвет.

Трэба спадзявацца, што БАПЦарква увядзе сталы дзень жалобы па загубленых бальшавікамі нашых братох і сёстрах, у які ўва ўсіх прыходах БАП Царквы будзе адбывацца жалобнае маленьне дый пры гэтым — жалобныя акадэміі.

**М -ч**

## П А П Р А Ў К А

У папярэднім нумары «Б-ны» з прычыны недагляду закралася прыкрая памылка, за якую Рэдакцыя просіць прабачэньня ў сваіх чытачоў.

Загаловак на першай старонцы «Не паўтарыць памылкі 18 ліпеня» трэба чытаць: «Не паўтарыць памылкі».

# УВАГА!

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ Ў АМЭРЫЦЫ!**

## ДЗЕСЯТЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД ЗБМА

адбудзецца 2—4 верасьня 1961 году (Labor Day Weekend) ў **адпачынковай гаспадарцы** сябры ЗБМ Анатоля Александровіча паміж Krumwille і Olivebrige, недалёка Kingston, New-York.

**Парадак Зьезду**

**Сыбота, 2 верасьня:**
гадз. 7,30 раніцы — падняцьце сьцягоў
10,00 раніцы — нарады кіраўніцтва
1,00 папаўдні — **Нарады Зьезду**
7,30 вечара — зьняцьце сьцягоў
9,00 вечара — вечарына (арк. «Палесьсе»)

**Нядзеля, 3 верасьня:**
гадз. 7,30 раніцы — падняцьце сьцягоў
9,00 раніцы — нарады новавыбранага кіраўніцтва з кіраўнікамі аддзелаў
10,00 раніцы — палёвая Божая Служба (праваслаўная)
2,00 папаўдні — спорт
7,30 вечара — зьняцьце сьцягоў
9,00 вечара — вогнішча. Праграмаю будзе кіраваць сп. Міхась Тулейка.

**Панядзелак, 4 верасьня, 7,30 раніцы —** падняцьце сьцягоў і заканчэньне X зьезду ЗБМ.

Увесь вольны час будзе заняты рознымі гульнямі і спортам.

Усе карэспандэнцыі просім кіраваць на:
ZBMA New-York Branch
401 Atlantic Avenue
Brooklyn 17, New-York

або:
ZBMA c/o Vasil Melianovich
1399 Sutter Avenue
Brooklyn 8, New-York
Tel. MI-7-6620

**Кіраўніцтва аддзелаў New York City**

*Фэльетон*

# Як ліквідаваць прыватную ўласнасьць?

Як ведаем, Хрушчоў злосным вокам глядзіць на прыватную ўласнасьць, якая ўсё-ж яшчэ існуе ў краіне «пабудаванага сацыялізму». Праўда, гэтая прыватная ўласнасьць вельмі-ж нэндзная: адзін калгасьнік мае кароўку, іншы парсючка, а яшчэ іншы — казу. Нялёгка ім утрымаць гэтую прыватную ўласнасьць, але яны робяць усё магчымае, каб яе утрымаць, кіруючыся прынцыпам: «на ЦК спадзявайся, але і сам не зявай». Такім чынам, на злосьць Хрушчову і ЦК прыватная ўласнасьць яшчэ не зьліквідаваная, а значыцца і камунізм не пабудаваны.

Мы раілі-б Хрушчову прачытаць 154-ты нумар «Калгаснай праўды». Там ён даведаўся-б, як «геніяльны» вэтэрынар калгасу «Камсамольская праўда» Талачынскага раёну **наватарскім** спосабам ліквідуе прыватную ўласнасьць.

У калгаснага паштальёна **Карніловіча** захварэла прыватная карова. Карніловіч пабег да вэтэрынара Лугоўскага. «Ратуйце карову, бо дзеці ня будуць мець малака!» — лемантаваў Карніловіч. Лугоўскі не адмовіўся. Прыйшоў. З сур'ёзнай мінай Эскуляпа абстукаў, абслухаў, абшчупаў пацыентку і вырашыў, што ёй трэба зрабіць укол. Прачуваючы нешта нядобрае, карова баранілася як магла, але не змагла — укол атрымала. Праз некалькі хвілін яна пажадала гаспадару шчасьліва дачакацца сьветлай будучыні камунізму, а сама — выцягнула ногі.

У той-жа самы дзень энэргічны вэтэрынар-наватар залячыў на сьмерць яшчэ дзьве прыватныя каровы — Хведара **Масьліна** і Ліды **Карніловіч.**

Із свайго боку мы раілі-б Хрушчову, які змагаецца з прыватнай уласнасьцяй, зацікавіцца «перадавымі» мэтадамі вэтэрынара-наватара Лугоўскага. Яму напэўна, варта было-б прысвоіць годнасьць «героя сацыялістычнае працы».

**П. С.**

## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski,** 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць нагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**